ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА
№ 9
Двухтыднёвая часопіс для меншых дзяцей
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ
1932
Год выданьня 4

# Песьня пра ўціль

Музыка В. ЯФІМАВА

Б'юць ба-ра-ба-ны, б'юць ба-ра-ба-ны! Ра-ды, змы-кай-ся цес-на! І-дуць ў па-ход, у-ціль па-ход. І-дуць бры-га-ды з песь-няй. Гэй, бры-га-ды, жва-ва пры-мем-ся за спра-ву. Раз, два! Ле-вай! Мы два-ры а-бой-дзем, шмат ча-го мы зной-дзем, ўсю-ды мы пра-ле-зем і зьбя-рэм жа-ле-за, ста-ры-я ка-вал-кі бу-дуць рэй-кі, гай-кі; бу-дуць для кра-і-ны но-вы-я ма-шы-ны. Гэй, бры-га-ды, жва-ва пры-мем-ся за спра-ву. Гэй!

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25.

# АКЦЯБРАЦКІ ЛАГЕР



**У гэтым годзе многія акцябраты паедуць у лагеры. Рыхтавацца да лагераў трэба загадзя.**

**Тут мы друкуем плян правядзеньня лагераў аднэй акцябрацкай базы. А як вы рыхтуецеся да лагераў? Ці ёсьць у вас пляны работы і адпачынку ў лагерах?**

**Мы раім абмеркаваць гэты плян і выкарыстаць яго.**

**Гэты нумар часопісі прысьвечаны кампаніі за культурны быт, за чыстату, за здаровы адпачынак.**

**Прачытайце ўважліва часопісь і абгаварэце на сваіх сходах, што вы павінны зрабіць, каб здаровымі быць. Як вы павінны змагацца супроць бруду, неахайнасьці і інш.**

— Увага, таварышы!—сказаў важаты акцябрат, праводзячы сход.—Мы зараз павінны абгаварыць вельмі важнае пытаньне.

— Якое? Якое?—пасыпалася з усіх бакоў.

— Выезд акцябрат у лагер.

— Акцябрат?—запытаўся Кім.—А ты ня маніш? Акцябрацкага лагеру няма, ёсьць толькі піанэрскі.

— У гэтым годзе Гарком арганізуе лагер для акцябрат. Пасьля заняткаў у школе будуць арганізаваны лагеры.

Нашай базе дадзена толькі 16 месц, і вось зараз мы павінны вырашыць, каго пашлем у лагер.

— Тых, хто добра вучыцца!

— Хто не парушае дысцыпліны ў клясе!

— Хто сабраў больш за ўсіх попелу для падшэфнага калгасу.

— Хто сабраў больш жалезнага лому і ўцілю для заводаў!

Важаты ўсё запісаў.

— А цяпер пабачым. Мне здаецца, што ўсё тое, аб чым вы, дзеці, казалі, адносіцца да лепшых ударнікаў, ці няпраўда?

— Праўда!

— Я лічу, што трэба паслаць лепшых ударнікаў. Хто за гэту прапанову?

— Усе. Ну, вось і добра.

А цяпер абмяркуем плян нашага жыцьця ў лагеры.

Доўга працавалі дзеці над плянам і нарэшце выпрацавалі.

Вось ён.

## Правілы ўнутранага распарадку ў лагерах

1. Рана ў 8 гадзін уставай, у 9 вечара кладзіся спаць.

2. Раніцай і вечарам мыйся да пояса халоднай вадой, зубы шчоткай добра чысьці.



3. У час ежы будзь заўсёды на месцы.

4. Пасьля абеду—„мёртвая гадзіна“ (усе павінны адпачываць на сваіх ложках).

5. Сонечныя ванны без дазволу доктара ня прымаць, таксама і купацца ў рэчцы дазваляецца толькі ў прысутнасьці кіраўнікоў.

6. Без дазволу кіраўніка далёка не адыходзіць.

## Культурны адпачынак

1. Перад выездам сабраць у акцябрат настольныя гульні, мячыкі, кніжкі дзеля таго, каб у дрэнную пагоду было чым заняцца.

2. Узяць з сабой акцябрацкую бібліятэчку і наладзіць калектыўныя чыткі кніжак.

3. Упрыгожыць памяшканьне, арганізаваць Ленінскі куток.

4. Зьвязацца з суседнім калгасам, пазнаёміцца з працай калгасьнікаў і з машынамі, якія ёсьць у калгасе.

5. Пазнаёміцца з дзецьмі калгасьнікаў, арганізаваць з іх акцябрацкую групу, разам чытаць кніжкі і праводзіць гульні.

6. Наглядаць за прыродай і весьці запіс цікавых зьяў у прыродзе. Сабраць розныя калекцыі, якія ўвосень прынесьці ў школу.

7. Выпускаць насьценгазэту.

8. Арганізаваць гурткі: вайсковы, юных натуралістаў і фізкультурны.

Кожны акцябронак павінен выконваць усе гэтыя правілы.

**АКЦЯБРАТЫ БАЗЫ**

**ДРУКАРНІ СТАЛІНА**



# ШТО РАБІЦЬ, КАБ ЗДАРОВЫМ БЫЦЬ

К. КРАПІВА



Дактары нам
Скрозь даводзяць,
Што хвароба
З брудам ходзіць—
Мыйся ў лазьні,
Мыйся ў ваньне,
Бруд змывай
З сябе дазваньня.

Знайся з мылам
І з вадой,
Рукі мый
Перад ядой.

І пакояў душных
нетры
Праз акно хутчэй
праветры.
Сьвежым ветрыкам
правей,—
Будзе дыхаць
здаравей.



Будзь ахайным малайцом—
Пачашыся грабянцом.





Шчоткай вопратку ахай—

Ня бузуецца няхай.



Аж да пояса

Ля крана

Спаласьніся,

Устаўшы рана.



Сьліна з пылам
той-жа бруд,—

Вось і правіла
вам тут:

Чыстату каб
захаваць—

На падлогу
не пляваць.

Каб ты сьвеж быў
ды здароў,

Каб гуляла ў жылах
кроў,



Каб ня меў бяды
праклятай—

Спаць лажыся
а дзевятай.

# Зялёны двор

**Апавяданьне І. КАГАНОЎСКАЙ**
**Малюнак Л. РАНА**

Радасна сьвеціць веснавое сонейка. Яно сваімі гарачымі праменьнямі растапіла сьнегавыя горы. А на двары мэталюргічнага заводу сьнегу было надта шмат. Як растаў сьнег, дык толькі цяпер усе ўбачылі на дварэ вялікія кучы featured рознага непатрэбнага жалеза.

— Але і лому сабралася ў нас.

— Цэлыя горы.

— А мартэнам не хапае поўнай нагрузкі.

— І чаго гэта глядзіць наша адміністрацыя,—гаварылі рабочыя.

Неўзабаве быў склікаваны агульны рабочы сход. На гэтым сходзе гаварылі пра ачыстку двара. Доўга гаварылі. Нарэшце пастанавілі: арганізаваць суботнік і сабраць лом на заводзкім дварэ.

— Накормім мартэны! Разгрузім двор ад лішняга хламу,—гаварылі рабочыя.

На гэтым-жа сходзе быў важаты заводзкага піянэрскага атраду. Ён папрасіў слова:

— Мы павінны клапаціцца аб сваім здароўі. Нам трэба дбаць, каб было чыстае паветра каля заводу. А тут улетку ад пылу няма чым дыхаць. Я прапаную насадзіць на заводзкім дварэ, дзе гэта можна, дрэвы, зрабіць двор зялёным.

Дырэктар заводу замахаў рукамі:

— Ды што вы? Што вы — заняць двор? А як праходзіць, праяжджаць будзем?

А рабочыя на гэта адказалі.

— Знойдзецца месца для дрэўцаў. Трохі воддаль ад заводу пасадзім іх.

— Аздаравім заводзкі двор.

*
* *

У першы-ж дзень вясёлыя і бадзёрыя вышлі на суботнік рабочыя.

Праз увесь заводзкі двор вісеў плякат:

**Увесь лом—у мартэны. Ніводнага кавалка лому на дварэ.**

Дружна закіпела работа: кожная брыгада старалася скарэй ачысьціць свой вучастак ад лому. Не адставалі ад усіх рабочых і піанэры. Весела зьбіралі яны рознае ламачча. Ім, як меншым, далі лягчэйшую работу: зьбіраць розныя стружкі, лёгкае жалеза. Яны скідвалі ўсё гэта ў ваганэткі, а рабочыя адвозілі гэты лом на завод.

На заводзе вялізарны коўш пад'ёмнага крана адносіў лом у печ.

Да вечара двор быў ачышчаны. Увесь лом быў пераплаўлены ў мартэнах. З яго зрабілі новыя машыны і прылады.

*
* *

Аднойчы пасьля цёплага дажджу, на заводзкі двор прышоў атрад піанэраў. Яны прынесьлі вялікі плякат з надпісам:

Дадзім заводам зялёныя двары. Створым здаровы адпачынак для рабочых.

Усьлед за імі на вазох прывезьлі маладыя дрэўцы, кусьцікі кветак.

Ахвотна працавалі піанэры. Дружна ішла работа: адны капалі ямкі, другія накідалі ў іх гной, трэція падносілі дрэўцы, чацьвертыя садзілі іх і закопвалі ямкі.

Пасьля работы вышлі дапамагаць піанэрам рабочыя.

Пасадку рабілі па вызначаным тэхнікам пляне.

Тры дні працавалі піанэры з рабочымі. Упрыгожвалі заводзкі двор кветкамі, дрэўцамі.

— Ну і пах будзе,—жартавалі ліцейшчыкі.

— Мы ад мартэн проста да кветак. Будзем дыхаць здаровым, чыстым паветрам.

— Зелені колькі будзе, як вырастуць дрэўцы! Не заводзкі двор, а сад будзе,—радаваліся рабочыя.

Зусім другі выгляд прыняў двор. Клюмбы былі агароджаны маленькімі каменьнямі. Кветкі, што схілялі галоўкі ў першыя дні, пачалі паступова выпроствацца ад цёплага надвор'я, ад вільготнай зямлі.

Рабочыя былі здаволены работаю піанэраў.

— Скора ў нас будзе зусім зялёны двор,—гаварылі яны.



# ЗНАХАР



Я няграматных лячу,
Я над імі рагачу.
Хтосьці стукнуў там ля
ганку—
Мусіць, хворая йдзе Ганка.
Ганку спырсну я вадою,
Патрасу я барадою,
Што хачу
Памармычу,
І гатова—
Будзь здарова!
Вось як я лячу!
Дык таму і рагачу!

ЛЯЧЫСЯ
толькі




ДОКТАРА!

# ЗЬНІШЧАЙ ПАРАЗЫТАЎ!



Прышоў Мікола ў школу ўвес скрываўлены. Твар абсыпаны сьвежымі балькамі. Некаторыя з іх крыху абсохлі.

— Хто гэта цябе так пакалечыў?— запыталася настаўніца.

Засаромеўся Мікола, пачырванеў.

— Ніхто,—адказвае.

— А чаму ў цябе такі твар?

— А гэта я сёньня спаў на печы... Там тараканоў многа.

— І ў нас водзяцца тараканы,— перапыніў яго Міхалка.

— І ў нас.

— І ў нас,—загаварылі з другіх скамеек.

Выявілася, што ў многіх дома водзяцца і тараканы, і прусакі, і клапы.

Настаўніца праслухала ды і кажа:

— Наша школа павінна выступіць на змаганьне з усімі гэтымі паразытамі. Мы правядзем дэкаднік за чыстату. Вытруцім усіх паразытаў.

Дзеці ахвотна згадзіліся з настаўніцай, бо кожнаму даліся ў знакі хатнія паразыты. Не адзін Міколка ад іх пацярпеў.

**ЯК І ЯКІМ СПОСАБАМ ТРЭБА ЗЬНІШЧАЦЬ ПАРАЗЫТАЎ? АБ ГЭТЫМ ДАВЕДАЙЦЕСЯ Ў НАСТАЎНІКА.**

## Ачысьцім школьны двор

*Глянъце на ўнаш школьны двор. Чаго там няма! Усюды валяюцца калы, жэрдкі, каменьні. Каля самага акна куча сьмецьця. Нельга акна адчыніць. Сонца як прыгрэе, дык смурод з ног зьбівае здаровага чалавека.*

*Мая прапанова:*

*Давайце наладзім суботнік. Ачысьцім наш школьны двор.*

*Але гэтага мала. Трэба каля школы зрабіць градкі і пасадзіць кветкі.*

*Акцябронак М. АГЕЙЧЫК.*



**Каб ня мець ліхой бяды**
**Ад заразы нечаканай,**
**Дык ня пі сырой вады—**
**Запасайся гатаванай.**




Гэтай вясной многія дзеці з другога канца вёскі не хадзілі ў школу толькі з-за гразі. Гразі на вуліцы па калені. Нават абыйсьці няма кудой.

Каля Сымона Гаварушкі, у нізкім месцы, дык цэлае балота. Ужо каторая пара, а яшчэ не абсохла там гэтае балота.

Ці не пара нашай вёсцы зрабіць на вуліцы тратуар?

Чакаем ад члена сельсавету і старшыні калгасу адказу.

**Піанэры 3 зьвяна.**

# Каляндар прыроды

| Май | НАДВОР'Е | РАСЬЛІНЫ | АГАРОД | ТЭМПЕРАТУРА |
|---|---|---|---|---|
| 15 | сонечна | | | 18° |
| 16 | навальніца | | | 20° |
| 17 | хмурна | | | |
| 18 | дождж | | | |
| 19 | | | | |

Зак. № 1102. Галоўліт. № А-5.

## Як зрабіць каляндар

1. Дастань картону і выраж дзьве гэткія формы.

2. У адной з гэтых формаў выраж акуратна ўсе клетчаткі. Таксама выраж сьветлыя палоскі над клетачкамі.

3. Верхнюю прарэзаную форму наклей на другі картон (другую форму, суцэльную). Але наклей так, каб не заклеіліся верхнія палоскі над клетачкамі, куды ты будзеш устаўляць карткі з замалёўкамі. Таксама не заклейвай цалкам і чорныя палоскі зьнізу клетачкі, куды будзе заходзіць край карткі, — іначай яна выпадзе. Зьнізу замест наклейваньня можна прымацаваць пляначкі. Падумайце, як вам лепш і зручней—так і зрабеце.

4. Наглядай кожны дзень:

а) надвор'е.

б) расьліны,

в) агарод,

г) тэмпэратуру. Калі ў вас няма тэрмомэтра, даведайцеся пра тэмпэратуру надвор'я.

5. Свае назіраньні запісвай і замалёўвай на акуратна выразаныя чатырохкутнія паперкі.

6. Гэтымі малюнкамі і запісамі запаўняй кожны дзень клетачкі каляндара.

7. У першую клетку ўстаўляй: месяц і дзень.

Малюй рознымі алоўкамі, фарбамі, чарнілам і вырэзвай з паперы.

Матар'ял для каляндара: картон альбо фанэра.

ЗАЎВАГА: калі робіш з фанэры, дык досыць аднэй формы, да яе прыбівай вузкія пляначкі.

Разьмер: 1/2 мэтра шырыні, 30 *см* вышына. Можна браць больш і меншы.

# ЧАМУ БРУДНА У РАЗЬДЗЯВАЛЬНІ

Учора ў нас быў такі выпадак. Прышоў Міхаська ў школу. Зайшоў у разьдзявальню скінуць вопратку. Пасьлізнуўся на падлозе і паляцеў кулём. Устаў з разьбітай галавою, увесь запэцканы ў гразь.

Толькі пасьля гэтага зацікавіліся разьдзявальняй.

Выявілася, што там гразі па вушы, падлога даўно ня мыта.

Цікава, чаму наша санітарная камісія дагэтуль не заглянула ў разьдзявальню.

Вучань М. ШАШОК.






*Вучань 3 групы Юзік крадзе ў бацькі тытун і курыць. Ці добра робіць Юзік?*

Ня вучыся, брат, курыць...
Што тут доўга гаварыць, —
Сам-жа чуў ты ад людзей:
Дым—хвароба для дзяцей.



## ЗАПЫТАНЬНІ

Чаму ў цябе, Ясь,
На вушах гразь?

Ці ня думаеш ты, Стэпа,
На нагах пасеяць рэпу?
Бо на іх гразі і бруду—
Ну, ня меней як паўпуда.

Выданьне групы акцябрат. РЭДАКТАР—РЭДКАЛЕГІЯ.

# ГАРШЧОК

**АПАВЯДАНЬНЕ А. Я.**
**МАЛЮНКІ Л. РАНА**

**Такія выпадкі „лячэньня“, пра які расказана ў гэтым апавяданьні, сустракаюцца і цяпер у нашых глухіх вёсках. Яшчэ многія несьвядомыя людзі вераць у забабоны, у шаптух і шаптуноў.**

**Задача школы і ўсіх дзяцей — змагацца супроць гэтых старых дзікунскіх перажыткаў.**

**Прэч папоў, багоў і розных шаптуноў!**

Забалеў маломy Янучку жывот. Рэжа, як вострымі нажамі, каля паясьніцы.

Курчыцца Янук ад болі. Енчыць, паратунку просіць. Аж учарнеў малы ад пакуты.

— Схадзі, мамка, па фэльчара,—просіцца Янучок.

— Ат, выдумаў. Я зараз да бабкі Даміцэлі зьбегаю. Яна пашэпча, гаршчок кіне. А што фэльчар — толькі парашкоў дасьць адчэпнага.

Сабралася маці і вышла.

А праз колькі часу прывяла бабку Даміцэлю. Бабка Даміцэля распранулася ў хаце, раскруціла з ануч свой гаршчок. Запаліла камяк пакульля. Укінула яго ў гаршчок і паставіла на жывот ледзь жывому Янучку.

— Як рукой зьніме,—зашапяляла бабка Даміцэля і прынялася за свае шэпты над хворым.

— Ой, ой, ратуйце! — з апошняй сілы запішчаў Янучок.—Жывот! Жывот!

Хапіўся рукамі за гаршчок хлопчык, тузае яго, але рады ня дасьць.

— Няхай, няхай, цярпі! — закрычала на яго старая.

Але ў Янучка ўжо і губы пасінелі.

— Гэта-ж канае дзіця,—перапалохалася маці, як убачыла, што ў Янучка і вочы закаціліся.

— Ратуй, бабка, галубка! — загаласіла маці.

— Што ты, гаршчок усім памагае... Усю хваробу выцягне. Мне-ж ня першы раз лячыць,—замахала рукамі бабка Даміцэля.

Пачуў гэты крык старэйшы брат Янучка, камсамолец Антось. Ускочыў у хату.

Бачыць: ляжыць Янук і ледзь стогне ўжо. А на жываце гаршчок. Здагадаўся ён. Хапіў палена.

Шаптуха Даміцэля толькі вочы вытрашчыла: „няўжо біць?“

— Ня дам, ня дам! — падбегла яна да Антося і засланіла сабою гаршчок. — Гэты гаршчок 20 год мне служыць. Ня дам!

Адапхнуў яе Антось ад сябе, стукнуў па гаршку. Нібы гара лопнула. Такі грук



*Шаптуха кінула на жывот гаршчок.*



*— Гэтыя шаптухі ды знахары ў труну паложаць без пары.*

раздаўся. Увесь жывот Янучкоў уцягнула было ў гэты гаршчок.

Каб яшчэ троху, ня вытрымаў-бы хлопец.

— А цяпер,—кажа Антось да бабкі,— вымятайся з хаты.

Запрог Антось каня і Янучка ў бальніцу павёз.

— Гэтыя шаптухі ды знахары ў труну паложаць без пары. І табе, маці, пара ўжо ведаць, у каго і дзе трэба лячыцца,—са злосьцю сказаў Антось.

# ЛЯСНЫЯ ШКОДНІКІ

АПАВЯДАНЬНЕ ПАЛЬЧЭЎСКАГА

МАЛЮНКІ Л. РАНА

I

На ўскраі лесу стаяла групка хлопцаў. Яны за неўвашта спрачаліся. Адзін з іх, самы большы ростам, Сяргей, злосна наракаў на свайго таварыша Ціму.

— Ва ўсім толькі ты вінаваты,—даводзіў Сяргей.

— Чаму гэтая? Усе вінаваты,—не здаваўся Ціма.

— Бо ты нас выдаў, ты на ўсіх нагаварыў,—уступіўся за Сяргея Юрка.

— Я не выдаваў. Лясьнік сам бачыў, як вы пабеглі.

— І табе трэба было ўцякаць за намі, а ты ў гаворку з ім пусьціўся,—дакараў Юрка Ціму.

— Калі я калошаю зачапіўся, а ён мяне дагнаў, — апраўдваўся Ціма.

Уся гаворка хлапцоў круцілася навакол сёньняшняга здарэньня. Ніхто з іх не прызнаваў сябе вінаватым, усе складалі віну на Ціму.

А ці-ж вінаваты быў Ціма?

Не, ён шчыра расказаў лясьніку папарадку, чаму хлопцы і ён разам з імі хацеў падпаліць лес.

Лясьнік, пажылых гадоў мужчына, выслухаў Ціму, пакруціў галавою і сказаў:

— Ой-ёй-ёй, што вы вытвараеце? Гэта-ж добра, што я найшоў, а то колькі лесу загінула-б дарма!

— Мы хацелі паглядзець, як дым будзе клубкамі ісьці ўгару,—спакойна адказаў Ціма.

Лясьнік паглядзеў на Ціму, на яго разарваную калошу і сурова зазначыў:

— Хіба я вашым бацьком скажу пра такія ўчынкі, хай яны трохі ўшчунуць вас. Бо ваша гульня—вялікая згуба для лесу. Лес мы павінны даглядаць, шанаваць яго, а вы распальваеце шыпулькі, каб зрабіць пажар.

Бачыць Ціма злосьць на твары лясьніка і страх агортвае яго, баіцца каб не набіў яго дзядзька Цупрон тут, на месцы злачынства. Ціма павольна адыходзіцца і адыходзіцца, а пасьля—ходу да хлапцоў.

Паглядзеў лясьнік усьлед Ціму, памахаў галавою і ўзяўся затушваць вуглі-недагаркі. Скончыўшы гэту работу, ён прайшоў яшчэ раз па сваім вучастку і вышаў на ўскрай лесу.

## II

Моўчкі ідзе дзядзька Цупрон дарожкаю, думкі прабягаюць адна за другою ў яго галаве. Раптам лясьнік спыняецца.

— Спрэс сьвежая работа, — міжвольна гаворыць ён і падыходзіць да абадранае ліпы. Яна здалёк сьвяцілася белым ствалом.

Жаль ахапіў лясьніка, калі ён убачыў такі ўчынак хлопцаў, бо Цупрон любіў і шанаваў лес, як маці дзяцей.



*Хлопцы круцілі з хвоячак стрэлкі.*

Пашоў Цупрон далей ускраем лесу. Але не прайшоў і дзесяці крокаў, як яму кінуўся ў вочы яшчэ горшы малюнак. Спыніўся лясьнік і сам сабе ня верыць. Сяргей і яшчэ двое з ім круцілі з маладзенькіх верхавінак хвоячак стрэлкі.

Найбольш гэта работа не ўдавалася Сяргею.

— Скажы ты, чацьвертую кручу, а нічога ня выходзіць,—злаваў Сяргей.

Дзядзька Цупрон чуе гэтыя словы і вушам сваім ня верыць. А з боку, трохі воддаля, стаялі ўжо без верхавінак восем маладых, здаровых дрэўцаў. На дванаццатым годзе свайго жыцьця яны асуджаны былі свавольнымі хлапцамі на сьмерць.

Юрка і Лявонка сядзелі ў цяньку пад елкаю і абчышчалі скручаныя стрэлкі. Навакол іх ляжала парэзаная з ліпы кара. Юрка прабаваў зрабіць з яе сяўню, а як нічога ня вышла, дык узяліся з Лявонкам плесьці лапці. Праз момант і гэту работу кінулі. Кара валялася цяпер бяз ніякае патрэбы, а ліпа праз гэта павінна была засохнуць.

Паціху падыходзіць лясьнік.

— Ну, што гэта вы робіце, хлопцы? — пытае ён зьнячэўку.

— Стрэлкі круцім,—адказаў зьбянтэжаны Юрка.

— Вот я скажу бацьку, дык ён табе вушы паадкручвае,—гаворыць злосна лясьнік.

Ад такіх слоў Юрка першы ўсхопліваецца і бяжыць праз увесь выган ходу, за ім бягуць і другія хлопцы.

Ціма нічога ня ведаў. Вясёлы ён бяжыць назад, заварнуўшы коняй ад сенажаці. Здалёк крычыць хлопцам:

— От слаўных пужальняў навыразаў. Гляньце адно.

— Нашто ты зглуміў іх?—пытае Цупрон.

— Ай, вы зноў тут?—ускрыквае Ціма.

— Добра, мы ўвечары пагаворым на агульным сходзе. Я ўсё раскажу. Вы не шануеце лесу, а лес—наша багацьце.

— Чаму гэта толькі мы? Усе дзеці не шануюць. Усе круцяць стрэлкі, усе ліпы абдзіраюць. А вы на нас адных...

Лясьнік падняў доўгую палоску кары, скруціў яе і сказаў:

— Увечары пра ўсіх пагаворым. Вот я вазьму гэты скрутак кары, як доказ. Пара ўжо навучыцца шанаваць лес.



---

Дзеці! Ці ведаеце вы, чаму трэба шанаваць лес?

Абгаварэце гэтае апавяданьне на сваім сходзе, на занятках у школе.

Прачытайце, хто ня чытаў, „Драўлянае апавяданьне“ Я. Маўра, надрукаванае ў № 2 і 3 нашай часопісі. Там дакладна расказана якую карысьць дае нам лес.

---

# У ліцейным цэху

З нарысу С. ШАЎЦОВА

Малюнкі Н. ГАЛОЎЧЭНКА

У ліцейным цэху самы адказны час у рабоце — гэта адліўка. У вагранцы *) клякоча расплаўлены чыгун. Гарачыня ў печы даходзіць да 1300°. Ад такой гарачыні чыгун-

*) Печ, у якой плавіцца чыгунная руда.



ная руда растапілася. Цяпер з яе трэба адліць патрэбныя для розных машын часткі.

Як-жа адліць?

Для гэтага загадзя робяцца патрэбныя формы—з гліны, пяску. У гэтыя формы і ўліваюць чыгун.

---

Гудуць вэнтылятары. Наганяюць чыстае паветра ў распаленую напоўненую чыгуном ваграньку.

Стары вагранщчык сядзіць недалёка ад свае ваграпкі. Ён спусьціў вочы ў зямлю і аб нечым, відаць, думае. Потым узьняў галаву, абвёў вачыма падрыхтаваныя формы. Некаторыя фармоўшчыкі яшчэ канчалі сваю работу. Вагранщчык пасядзеў хвілінку, потым устаў і сам да сябе прагаварыў: „Трэба рыхтавацца, бо ўжо гатова, растапілася“.

Майстар ліцейнага цэху, Загорскі, здагадаўся пра намер вагранщчыка.

— Хутчэй, хлопцы, хутчэй там. Выпускаем!—крыкнуў на фармоўшчыкаў Загорскі.

Загорскі яшчэ раз правёў вачыма па цэху. Усё было гатова. Рабочыя былі кожны на сваім месцы. Падрыхтаваныя формы чакалі, ці скора напоўняцца яны бліскуча-белым рэдкім чыгуном.

— Ну, хлопцы, трымайся! Выпускаем,—сказаў Загорскі.

Двое маладых рабочых доўгаю палкаю прапхнулі затычку невялікай дзіркі ў ваграпцы. Адтуль з піскам і



шумам вылецеў растоплены чыгун. Ён роўным раўчуком паплыў па карытцы ў коўш.

Ад чыгуна іскры сыплюцца ўверх, нібы ракеты пушчаныя ў цемнаце. Белым бліскучым чыгуном напоўнены коўш. Аж кіпіць, калышацца чыгун у каўшы, б'ецца ў берагі яго.

Валодзька пакруціў ручку ў сваёй скрынцы. Ад гэтага коўш падняўся на мэтра паўтара ўверх ды паехаў па падрыхтаваных фармоўшчыкамі каморках. Пад'едзе коўш да формы, нахіліцца над дзірачкай формы, выльле чыгун— і далей зноў пустым варочаецца да карытца. Некалькі разоў пад'яжджае, напаўняецца і апаражняецца.

Нарэшце работа скончана: усе формы напоўнены растопленым чыгуном.

З налітых форм з усіх бакоў і куточкаў засьвяціліся сінія агеньчыкі, нібы васількі. Гараць яны роўненькімі, сіненькімі касьнічкамі. Але паволі пачалі згасаць.

Астываюць і формы. Бліскучы белы чыгун пачынае чырванець, а потым чарнець.

Праз ноч, раніцою, з форм, налітых рэдкім гарачым чыгуном, вымалі шкібы, шасьцяронкі ды інш. часткі для машын.

Яшчэ цёпленькія, а іх ужо абсякалі рабочыя—абрубшчыкі. Потым на ваганэтцы па вузка-калейнай рэйкавай дарозе чорнарабочыя павезьлі іх у мэханічны цэх. Там іх адшліфуюць, абчысьцяць.

З гэтых вылітых частак зробяць розныя машыны.



**З гэтым нумарам часопісі рассылаецца дармова дадатак—КАЛЯНДАР ПРЫРОДЫ.**

# Падумай

У гэтым вершы некалькі слоў прапушчана. Падумайце, якія гэта словы і дапішэце іх самі.

| | |
|---|---|
| Нашы варштаты— | Вучыцца, вучыцца |
| . . . . . . . парты | Змагацца за . . . . |
| Кніжкі, алоўкі — | Такія пакінуў |
| . . . . . прылады. | Нам Ленін . . . . . |

## Манаграма

З „Б“—можна бачыць на вуліцы,
з „Г“—пачуеш калі кінеш цяжкую рэч,
з „Д“—ты цяпер бачыш,
з „К“—на ім вешаюць рэчы.
У манаграме канчаткі павінны быць аднальковыя.

### Адказы на загадкі з № 8

| | Манаграма: |
|---|---|
| 1. Цыбуля | Вата. |
| 2. Дым | Лата. |
| 3. Рэха | Тата |
| 4. Замарожаную (лёд) | Хата. |

ЗЬМЕСТ



ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: Л. РУСАКОВА.
А. ЯКІМОВІЧ.

ЦАНА АСОБН. № 18 КАП.

# НЯЗВЫЧАЙНАЯ ПРЫГОДА,
## ЯКАЯ ЗДАРЫЛАСЯ З БРУДНЫМ І НЕАХАЙНЫМ ХЛОПЧЫКАМ



**Кожную ноч не давалі супакою хлопчыку паразыты. А вінен у гэтым быў ён сам, бо не захоўваў чыстаты.**




**— Годзе цярпець пакуту!—сказаў аднойчы хлопчык і пабег за дапамогаю.**

**— Мы зараз-жа вытруцім вашых паразытаў! — адказалі хлопчыку ў Асоавіяхэме.**



**Зьявіліся ў пакой хлопчыка асоавіяхэмаўцы з прыладамі і вытруцілі ўсіх паразытаў.**

**— Ня будуць больш кусаць мяне тараканы, прусакі, мышы, — радуецца хлопчык,—а я сачыць буду за чыстатою, каб не заводзіліся яны болей.**

Друкарня імя Сталіна Зак. № 1102. 4470 экз. Уп. Галоўлітбелу А—5

